


# Вести й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

№ 2 (696)
Люты 2024 г.



Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*


# Сьвяткаваньне Калядаў у Нью-Ёрку

У суботу, 6-га студзеня 2024 году, у мястэчку Осынінг, штат Нью-Ёрк, адбылося сьвяткаваньне Шчадровак, або Шчодрага вечара – Шчадраца, сьвята Каляднага цыклю. Праходзіла імпрэза ў памешканьні лодачнага клюбу на беразе ракі Гудзон, і сьвяткаваць зь землякамі прыехала досыць многа беларусаў зь Нью-Ёрку, Нью-Джэрзі й Пэнсільваніі.

Шчодры вечар традыцыйна адзначаецца з выкананьнем сьпеваў калядак і шчадровак. Калі пярэдадзень Калядаў называюць Сьвятым вечарам, дык пярэдадзень Новага году па Юліянскім календары завецца Шчодрым вечарам, і гэта сьвята, якое мае сваю адмысловую абраднасьць і суправаджаецца працэсіяй удзельнікаў з васьміканцовай зоркай, якую несьлі наперадзе з ваджэньнем казы й мядзьведзя, з хаджэньнем па хатах, з багатым сьвяточным сталом.

У традыцыйным сялянскім сьветаглядзе час ідзе цыклічна, ён коціцца нібы кола і паўтарае поры году, згодна з цыклем сонцастаяньня. З 24-га сьнежня да 6-га студзеня "сонца паварочвае на лета" – дзень пачынае прыбываць аж да Купальля. Кола, календы (Calendae) – гэта назва першага дня кожнага месяца на лаціне. Адсюль выводзіцца назва гэтага сьвяточнага пэрыяду, на які прыпадае і сьвята Раства Хрыстовага.

Шчадрэц вызначаўся багацьцем абрадавых страваў, асноўнай зь якіх была багатая куцьця, якую, у адрозьненьне ад каляднай, запраўлялі мясам і салам, а таксама бліны зь верашчакай і смажаным мясам, каўбасамі. На Шчадрэц варажылі на будучы ўраджай, а дзяўчаты – на замужжа. На Шчадрэц хадзілі па хатах з гульнямі й сьпевамі, і нашыя продкі ўважалі, што калядоўшчыкі адганяюць сваімі песьнямі й карагодамі нячыстую сілу, якая асабліва шчыруе ў калядны час.

Усе гэтыя рысы старажытнага абраду былі адноўленыя сёлета з дапамогаю гасьціннага сп-ва Лены і Пятра Рыжых, а таксама Гэніка Лойкі, Валі Якімовіч і маладзейшых удзельнікаў, якія добра паказалі гульні й сьпявалі калядныя й шчадроўныя сьпевы. Па словах арганізатаркі сп-ні Алены Рыжай, прапанаваная вэрсія абраду Шчадровак заснаваная на фальклёрных запісах і прээнтацыях "Жаніцьбы Цярэшкі", якая традыцыйна выконвалася на Шчадрэц.



Удзельнікі сьвяткаваньня маглі паласавацца смачнымі шчадроўскімі стравамі і пагрэцца кавай.

Заснавальніца "Літаркі", першай анлайн-кнігарні ў ЗША сп-ня Натальля Ка прээнтавала беларускія кнігі, што прапануе чытачам "Літарка", а таксама пераклады з польскай на беларускую, фундаваныя Міністэрствам замежных справаў Польшчы, іх раздавалі бескаштоўна.

Адмысловай асаблівасьцю Шчодрага вечара была варажба, у якой актыўны ўдзел узялі прысутныя. Гэта водгук дахрысьціянскага паходжаньня абраду, які ў шмат чым захаваў паганскія рысы.

Дзя дзяцей былі арганізаваныя размалёўка печыва, складаньне традыцыйнага саламянага абярэгу "Павука" ды іншыя заняткі. Некалькі беларускіх валатаў адзначылі сьвята заплывам у Гудзоне.

Козачка танчыла, адукаванага мядзьведзя на ланцугу вадзілі, цыганка варажыла ды каня прадавала, Цярэшку і Шчодру ажанілі, калядныя сьпевы засьпявалі, сям'я Рыжых усіх гасьцей прысмакамі частавалі, такім чынам сьвята атрымалася! Вялікі дзякуй усім, хто далучыўся і актыўна ўдзельнічаў у сёлетніх Шчадроўках! Таксама вялікая падзяка "Літарцы" за прээнтацыю кніжак, размалёўкі печыва і за саламяных павукоў!

Усім зычым добрага і багатага году!

***Віталь ЗАЙКА***



# Культурная замена: чаму іміграцыйны крызіс наўмысны

У галівудзкіх фільмах ёсць некаторыя прагнозы іміграцыйных катастрофаў. Мабыць, адна з самых вядомых у фільме "Дзеці людзей", які паказвае сьвет у хаосе ў 2027 годзе пасьля распаўсюду таямнічай эпідэміі, якая зьнішчае здольнасьць людзей размнажацца. Безь дзяцей будучыня ставіцца пад пытаньне, грамадзтва ўпадае ў бязладзьдзе, натоўпы мігрантаў бескантрольна перасякаюць межы, а ўрады зьвяртаюцца да аўтарытарных мераў.

У фільме мы знаходзім усе прагрэсіўныя штампы на тэму масавай міграцыі. Мігранты заўсёды бедныя, нявінныя і прыгнечаныя ахвяры, у той час як любы, хто выступае супраць бескантрольнага ўварваньня гэтых чужынцаў, падаюцца фашысцкімі (звычайна белымі) злыднямі.

Выгнаньне дэструктыўных групаў людзей было надзвычайнай мерай, якую выкарыстоўвалі шматлікія цывілізацыі раней. Культуры, якія не абараняюцца, у выніку паглынаюцца іншымі. Большасьць краінаў плянэты сёньня маюць строгія іміграцыйныя законы, аднак Амэрыку і ЕС сталі жорстка крытыкаваць за жаданьне абмежаваць плыню нелегалаў.

Чаму так?

Прапаганда адкрытых межаў звычайная для галівудзкіх фільмаў і ёсьць часткаю шырэйшага парадку дня істэблішмэнту, які дзейнічаў у ЗША цягам многіх гадоў, але моцна паскорыўся з 2021 году. Адміністрацыя Байдэна назірала найбуйнейшы усплёск нелегальнай міграцыі ў гісторыі ЗША, з больш за 300 000 вядомых парушэньняў мяжы толькі ў сьнежні 2023 г. Гэта эквівалент гораду Пітсбург, які перамяшчаецца праз мяжу ЗША і патрабуе сацыяльнай дапамогі, субсідыяў, жыльля, працоўных месцаў, бясплатнага харчаваньня і г. д. кожны месяц.

Істэблішмэнт ведае гэта і хавае крызіс ад народу, сьцвярджаючы, што цяпер мяжа больш бясьпечная, чым калі раней. Любога, хто паставіць пад сумнеў гэтае сьцьвярджэньне, неадкладна абвінавацяць ў расізме і падтрымцы тэорыі змовы.

Памежныя штаты настолькі раззлаваныя такой палітыкай, што пачалі аўтобусамі перавозіць тысячы мігрантаў у "гарады-запаведнікі", як Нью-Ёрк, Вашынгтон і Чыкага. Вынікам стала катастрофа іх праграмаў сацыяльнага забясьпечаньня і мясцовай эканомікі. Мэры-дэмакраты, нарэшце, назвалі падзею надзвычайнай сытуацыяй. Сьмешна, як яны да гэтага адмаўляліся прызнаць праблему, пакуль яна не закранула іх непасрэдна. Дэмакраты цяпер абураныя тым, што рэспубліканскія штаты прымусілі іх цярпець наступствы сваіх вар'яцкіх палітычных ідэалаў.

І хоць прагрэсіўныя палітыкі выглядаюць поўнымі дурнямі, калі абараняць статус прытулку, існуе важнейшая праблема спраектаванага крызісу. Чаму эліты істэблішмэнту і адміністрацыя Байдэна хлусілі, нягледзячы на відавочную небясьпеку? І чаму для заходніх цывілізацый лічыцца няправільным абараняць свае межы? Таму што пэўныя групы людзей ва ўладзе атрымліваюць вялікую выгаду ад працяглага ўварваньня мігрантаў.

Думаю, многія чулі пра стратэгію Кловарда-Півена. Яна простая. Стварыце праблему, выкарыстоўваючы мігрантаў у якасьці зброі, прымусьце грамадзкасьць у страху і адчаі прасіць вашай дапамогі, прапануйце "рашэньне" праблемы мігрантаў, якое дасьць вам больш улады, чым вы мелі раней, або дазвольце ўварваньне, каб разбурыць існуючае грамадзтва, а затымаднавіць сыстэму з попелу.

Але Кловард-Півен – занадта спрошчанае тлумачэньне. Ёсьць некалькі іншых сцэнароў, якія варта разгледзець.

**Апэрацыя "Садовы ўчастак і ваеннае становішча".** У 1968 годзе армія ЗША па просьбе ўрада распрацавала плян грамадзянскіх беспарадкаў пад назвай «Апэрацыя "Садовы ўчастак», які па сутнасьці быў рэакцыяй на ваеннае становішча і маштабны сацыяльны разлад. Адным з асноўных фактараў, пералічаных у пляне як трыгер для ўвядзеньня ваеннага становішча, была некантраляваная масавая міграцыя меншасьцяў у ЗША, а таксама беспарадкі меншасьцяў у сьвятле эканамічнай нестабільнасьці.

"Садовы ўчастак" накіраваны на ўсталяваньне доўгатэрміновай унутранай ваеннай улады ў ЗША, калі гэта будзе прызнана неабходным, і нават быў зьвязаны з праграмамі стварэньня лягераў або ізалятараў для ўтрыманьня бежанцаў падчас масавага міграцыйнага крызісу. Гэтыя праграмы былі выпадкова выкрытыя падчас слуханьняў па справе Іран/Контра ў 1987 годзе і трымаліся ў сакрэце ад большасьці прадстаўнікоў у Кангрэсе. Іншымі словамі, эліты істэблішмэнту распрацавалі плян, каб хутка ўвесьці ваеннае становішча ў выпадку катастрофы зь мігрантамі. Але ці прызначаліся гэтыя меры для вырашэньня крызісу ці проста выкарысталі крызіс, каб усталяваць хунту ў ЗША? Гэта значыць, ім выгадна правакаваць крызіс трымаючы межы адкрытымі.

**Амністыя і стварэньне арміі нелегалаў.** Дэмакраты выступілі з мноствам законапраектаў, каб даць нелегальным імігрантам магчымасьць служыць у арміі ЗША і так атрымаць грамадзянства. Вядома, што істэблішмэнт хоча пакінуць межы адкрытымі і завабіць у краіну як мага больш нелегалаў, каб потым падмяніць імі сапраўдных амэрыканцаў ў арміі. І гэтая армія мігрантаў будзе выкарыстоўвацца супраць карэнных грамадзянаў для ўвядзеньня ваеннага становішча ў выніку нацыянальнай катастрофы.

Цяпер ва ўзброеных сілах каля 70% кансэрватараў і незалежных, і малаверагодна, што яны будуць выконваць загады падпарадкоўваць насельніцтва, асабліва ў імя непапулярнага левага/глябалісцкага прэзыдэнта, як Джо Байдэн. Элітам прасьцей выкарыстаць для гэтага замежнікаў, якія ня маюць павагі да амэрыканскай культуры і народу.

**"Тэорыя культурнай замены"** часта ачарняецца СМІ як расісцкая змова белых людзей, якія "баяцца страціць уладу". Гэта бессэнсоўна па некалькіх прычынах, у тым ліку таму, што калі б "белыя людзі" былі маналітам, і мелі б усю ўладу, то яны б проста ліквідавалі любыя пагрозы і закрылі межы. І ніхто нічога ня мог бы зрабіць, каб спыніць іх.

Праўда ў тым, што няма белага маналіту і няма такога паняцьця, як сыстэмны расізм. Ці выступаюць некаторыя левыя актывісты за масавую міграцыю, каб замяніць белых людзей у ЗША і Эўропе? Безумоўна. Яны называюць гэта "дэкалянізацыяй". Ці гэта сапраўдная мэта масавай міграцыі? Напэўна, не.

Замена, якая адбываецца, тычыцца ня столькі белых людзей, колькі заходняй культуры. Мэта ў тым, каб разбавіць амэрыканскую культуру незалежнасьці і выкарыстаць тыранію большасьці (дэмакратыю), каб назаўжды сьцерці амэрыканскія каштоўнасьці і прынцыпы.

Вось чаму вы будзеце чуць, як Байдэн і падобныя ўвесь час гавораць аб "дэмакратыі", пагрозе ёй і яе абароне. Гэта наўмысная тэрміналёгія. Калі яны кажуць "дэмакратыя", то маюць на ўвазе панаваньне натоўпу; тыранію большасьці.

Мігранты выкарыстоўваюцца для паступовай ліквідацыі слупоў заходняй цывілізацыі. Таму межы трэба ахоўваць цяпер, а нелегалаў трэба сьпешна выганяць з краіны. Ні ваеннага становішча, ні лягероў, ні амністыі, ні прытулку, ні сацзабесьпячэньня, ні субсідыяў. Іх проста трэба адправіць туды, адкуль яны прыйшлі, а калі яны нелегальна вернуцца, то панесьці жорсткае пакараньне.

Гэта не кіно. Быць супраць нелегальнай іміграцыі цалкам рацыянальна і разумна. Мігранты – гэта не нявінныя мінакі, зь якімі дрэнна абыходзяцца падчас нацыянальнай катастрофы. Яны і ёсьць катастрофа. Пазбаўленьне ад іх ня вырашыць праблему элітарнага істэблішмэнту і іх заплянаванага разбурэньня ЗША, але гэта можа стаць пачаткам.

***Я. З.***

Беларусь - Амэрыка: лёсы землякоў

# Віталь Кажан - беларускі вайсковы і грамадзкі дзеяч

Нарадзіўся Віталь Кажан на Дзісеншчыне ў вёсцы Балбекі, што над ракой Мнютай (цяпер Шаркаўчынскі раён) у сям'і селяніна-гаспадара, які здабыў пачатковую адукацыю і працаваў сакратаром ў земскага начальніка. Бацькі вялі гаспадарку на досыць вялікім абшары зямлі і добра даглядалі яе. Ад малых гадоў хлопец навучыўся працаваць на зямлі, але таксама пераканаўся ў патрэбе адукацыі. За польскім часам бацька быў абраны войтам гміны, але празь некалькі гадоў яго зьнялі за нібыта неляяльнасьць да польскай дзяржавы, і ён заняўся гандлёвымі справамі.

Віталь Кажан, атрымаўшы пачатковую адукацыю, скончыў польскую гімназію ў Дзісьне. Пасьля тэрміновай вайсковай службы ён паступіў у 1938 годзе ў афіцэрскую школу, браў удзел у польска-нямецкай вайне – пачатку Другой сусьветнай вайны. Затым у 1939 годзе вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам у сваіх родных мясьцінах.

У жніўні 1942 году Віталь Кажан прайшоў першыя курсы беларускіх афіцэраў у Менску, і быў пасланы ў Браслаў для арганізацыі падафіцэрскіх курсаў для Беларускай Самаахoвы, ваенізаванага фармаваньня, што мела антыпартызанскія мэты. Дзеля неспрыяльнага стаўленьня немцаў да Самаахвовы Віталь Кажан перайшоў на працу ў дапамаговую і дабрачынную арганізацыю Беларуская Нацыянальная Самапомач (БНС) і пэўны час працаваў у Глыбокім сакратаром і заступнікам акругавага старшыні БНС.

У сакавіку 1943 г. на пастанову беларускага актыву Кажан працаваў загадчыкам беларускай канцылярыі пры нямецкай адміністрацыі Вялейскай акругі.

В. Кажан у чэрвені 1944 году пакінуў Беларусь разам з большасьцю беларускага нацыянальнага актыву. У Бэрліне ён працаваў у структурах Беларускай Цэнтральнай Рады, браў удзел у падрыхтоўцы беларускіх афіцэраў. У лістападзе 1944 году Віталя Кажана прызначылі ад'ютантам арганізатара беларускага войска палкоўніка Францішка Кушаля. У канцылярыі Кушаля Віталь Кажан пазнаёміўся і ў сакавіку 1945 году ажаніўся з Жэняй Кароль. Пад канец вайны спадарству Кажаноў удалося перабрацца ў заходнюю частку Нямеччыны, каб не патрапіць пад савецкую акупацыю.

Затым яны жылі ў некалькіх лягерах перамешчаных асобаў (ДП) у Нямеччыне. Віталь Кажан працаваў заступнікам каманданта паліцыі лягеру ДП у Шляйсгайме каля Мюнхэну, дзе прабыў ад ліпеня 1946 па люты 1948 году. Затым, пасьля пераезду ў лютым 1948 году ў беларускі лягер Остэргофэн, Кажан працаваў адміністратарам газэты "Бацькаўшчына". У кастрычніку 1948 году ён прайшоў спэцыяльныя курсы ў Штутгарце для камандантаў лягернай паліцыі і там ад імя ўсіх курсантаў вітаў старшыню камітэта ААН па правах чалавека, удаву прэзыдэнта ЗША Элінор Рузвэльт.



У лістападзе 1948 году Віталь Кажан стаў камандантам паліцыі ДП-лягеру Остэргофэн. Ён яшчэ раней далучыўся да беларускай грамадзкай працы, быў сакратаром Беларускага Нацыянальнага Камітэту на амэрыканскую зону акупацыі Нямеччыны.

У чэрвені 1949 году, калі быў арганізаваны адзіны лягер для беларусаў у Розэнгайме, працаваў там бухгальтарам аддзелу прадуктаў ды адначасна прайшоў курсы ангельскай мовы. Затым Кажан працаваў там выкладчыкам пачаткаў ангельскай мовы ў беларускай школе.

Віталь Кажан быў сябрам Рады БНР, і на 4-й сэсіі Рады ў Розэнгайме ў кастрычніку 1949 году быў прызначаны на пасаду галоўнага Скарбніка Рады БНР. Гэтую адказную функцыю ён выконваў з надзвычайнай актыўнасьцю і сыстэматычнасьцю да самага канца свайго жыцьця, нават ужо як быў цяжка хворы.

У чэрвені 1950 году Віталь з жонкай і дачкой Ларысай перабраліся ў ЗША ў Нью-Ёрк. Віталь Кажан знайшоў працу на фабрыцы. Праз год Кажаны перабіраюцца ў горад Стамфард у штат Канэктыкут. Там Віталь атрымаў працу ў добрай кампаніі, дзе і адпрацаваў мэнэджэрам на будоўлях каля трыццаці гадоў.

У сакавіку 1952 году ў сям'і Віталя Кажана адылася трагедыя, калі падчас народзінаў сына Аўгена памерла жонка. У кастрычніку 1953 году Віталь ажаніўся зь Любай Пронькай, колішняй знаёмай з Шаркаўшчыны, і ў іх нарадзіліся дзьве дачкі, Юля і Маргарыта.

Дзеля таго, каб падтрымаць сям'ю і даць чатыром дзецям вышэйшую асьвету, Віталь Кажан пачаў у 1954 годзе, у дадатак да асноўнай працы, уласны бізнэс – фарбаваньне дамоў навонкі й унутры. Гэта ён рабіў аж да 1984 году ў час адпачынку ды сьвяточнымі днямі.

Віталь Кажан быў адданым і ахвярным беларускім актывістам, Ён быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), сакратаром Стамфардзкага аддзелу гэтай арганізацыі. У 1970-х гг. Кажан быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага клюбу ў Канэктыкуце. Ён уваходзіў у кіраўніцтва Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага.

Усім дзецям Віталь Кажан з жонкаю дапамаглі атрымаць вышэйшую адукацыю. У сваім аўтабіяграфічным нарысе, апублікаваным у зборніку "Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый" (сэрыя "Беларусіка-Albaruthenica", Мінск, "Беларускі кнігазбор", 2001) Віталь Кажан напісаў: "Здаецца, што мы, я і мая спадарожніца Люба, можам ганарыцца сваімі дзяцьмі. Усе яны былі добрымі вучнямі й сёньня зьяўляюцца добрымі людзьмі. Таксама важнае, што яны жывуць у добрай дружбе-сяброўстве паміж сабою і нас бацькоў паважаюць і шануюць. І яшчэ – усе яны добрыя хрысьціяне і добра ведаюць, што яны беларускага паходжаньня, і вельмі важна, што ўсе яны з намі, бацькамі, гавораць толькі па-беларуску".

Апошнія гады Віталь Кажан жыў у мястэчку Пэнінгтан у Нью-Джэрзі. Ён памёр 17 студзеня 2004 году і пахаваны ў Стамфардзе, штат Канэтыкут.

Віталь Кажан адказна ставіўся да ўсіх грамадзкіх абавязкаў і старанна выконваў усе справы, за якія браўся. Ён быў спакойным і разважлівым чалавекам, і ў памяці ўсіх тых, хто яго ведаў, застанецца чалавекам, што, робячы ўсё належнае "ў працы штодзённай, шэрай", набліжаў прыйсьце вольнай, незалежнай, сапраўды беларускай Бацькаўшчыны.

**Віталь ЗАЙКА**



# Кастусь ВЕРАБЕЙ
## (25.09.1933 – 10.01.2024)

Сьв. пам. Кастусь Верабей нарадзіўся 25 верасьня 1933 году (па словах ягонага бацькі 1931 г.) у вёсцы Іванкавічы цяпер Баранавіцкага раёну Брэсцкай вобласьці. За польскім часам скончыў першую клясу польскай школы. Пасьля далучэньня Зах. Беларусі да БССР наведваў савецкую школу.

Сям'я Вераб'ёў трапіла ў сьпісы на раскулачваньне і высылку, але напад Нямеччыны на СССР у 1941 годзе не дазволіў гэтым плянам збыцца. Першы час пасьля нямецкай акупацыі сям'я жыла ў роднай вёсцы, але з-за перасьледу савецкіх партызанаў пазьней Кастусь разам з бацькам Міхасём вымушаныя былі жыць у мястэчку Палонка, а потым у Баранавічах. Баючыся перасьледу савецкіх уладаў, сям'я Вераб'ёў вымушаная была ў канцы 1944 году выехаць разам з адступаючым нямецкім войскам ва Ўсходнюю Прусію. Пасьля заканчэньня вайны яны апынуліся ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны і жылі ў беларускім лягеры ДП у Ватэнштэце. Там Кастусь наведваў беларускую школу і ўдзельнічаў у беларускім скаўтынгу.

У 1951 годзе пасьля шэрагу інтэрвію з амэрыканскімі ўрадоўцамі сям'і Вераб'ёў дазволілі выезд у Злучаны Штаты. На амэрыканскай зямлі першыя тры гады яны жылі і працавалі на фармэрскай гаспадарцы ў штаце Нью-Ёрк, а потым перабраліся жыць у горад Гэмпстэд на Лёнг-Айлэньдзе.

У 1964 годзе Кастусь ажаніўся з Марыяй Лукашэвіч. Тады ж маладая сям'я разам з бацькамі Кастуся набылі дом у горадзе Фарміндэйл, дзе ён і жыў да апошняга часу. Да выхаду на пэнсію працаваў муніцыпальным работнікам у горадзе Гардэн-Сіты. Пасьля сьмерці жонкі ў сьнежні 2020 году ён хварэў і ўжо рэдка выходзіў з хаты.

Сп. Верабей падтрымліваў шматлікія беларускія ініцыятывы і праекты, ахвяраваў на выданьне беларускіх кнігаў, выпісваў беларускія пэрыёдыкі, пільна сачыў за палітычным жыцьцём на Бацькаўшчыне. Ён быў актыўным сябрам беларускіх арганізацыяў у ЗША і адданым вернікам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Сябрам і знаёмым сп. Верабей запомніцца сваіх вясёлым пазытыўным характарам і прыгожым званкім голасам, які выдзяляў яго ў царкоўных хорах.

Пакінуў у смутку пляменьніка Кастуся ў Беларусі і хрышчоную дачку Марыю (з дому Касьцюкевіч) у штаце Нью-Ёрк.

Разьвітаньне зь нябожчыкам адбылося 20 студзеня 2024 году ў пахавальным доме Сенькі ў горадзе Гэмпстэд, а пахаваньне на беларускім могілках ў Іст-Брансўіку, штат Нью-Джэрзі.

## Шаноўныя беларусы, запрашаем усіх на Гуканьне Вясны!

Сьвяткаваньне адбудзецца ў маляўнічых мясьцінах на ўзьбярэжжы Гудзону прыкладна 40 хвілін ад Мангэтану каля станцыі цягніка **Ossining** у суботу **16 сакавіка 2024 году** а **12-й** гадзіне папаўдні па адрасу:

***Ossining Boat and Canoe Club***
***1 Westerly Road***
***Ossining, NY 10562***

*У выпадку моцнага сьнегу перанясем сьвята на нядзелю 17 сакавіка.*

Падсілкуемся традыцыйнымі абрадавымі стравамі ў клюбе, а тады ў парку на рацэ ў строях будзем вадзіць карагоды і прасіць птушак прынесьці доўгачаканую вясну на сваіх крылах.

Кошт уваходу дарослым і дзецям ад 14 гадоў: **$20.**

З пытаньнямі зьвяртайцеся, калі ласка, на емэйл адрас: ***lenabelarus@yahoo.com***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**В. Біліда** .................60
**Д. Біліда** .................60
**В. Чарняк** ................60

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, якія ладзіць Згуртаваньне "Пагоня", а таксама пра бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку "Пагоні" ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Вескі й Паведамленьні*:**

**В. Едзіновіч** ...............30
**А. Пранцэвіч** ..............30

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

**Шаноўныя сябры!**

Калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на ***"Вескі й Паведамленьні".***

*Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на адраснай налепцы на канвэрце справа ад прозьвішча.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*